# КРЫНІЦА

№3(21) ЛІПЕНЬ 2011 www.bchd.info





*На фота лідэр Берасцейскага БХД Зміцер Шурхай размаўляе з міліцэйскім начальствам*

## БХД І НАРОДНЫЯ ПРАТЭСТЫ

**7 чэрвеня у Берасці прайшла акцыя «Стоп-бензін», каардынатарам якой быў абласны кіраўнік аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Зміцер Шурхай.**

«Акцыя праходзіла ў трохі іншым фармаце, чым у Менску. Праз сацыяльныя сеткі мы дамовіліся, каб людзі на машынах прыехалі ў цэнтр горада на скрыжаванне бульвара і праспекта Машэрава. У прызначаны час машыны хаатычна спыніліся, уключыўшы аварыйныя сігналы. Агулам у акцыі удзельнічала каля дзесяці машын, а таксама былі людзі на скутарах і матацыклах. Праспект мы не перакрылі, але гэтага і не планавалі. Кіроўцы нас падтрымлівалі і злосна не рэагавалі. Удзельнікі таксама раздавалі мінакам улёткі пра акцыю», – адзначыў Зміцер Шурхай.

«Акцыя цягнулася каля паўгадзіны. Супрацоўнікі ДАІ рукамі выпіхалі дзве машыны з дарогі ў двары. Аднаму ўдзельніку выпісалі штраф за тое, што ён нібыта праехаў на зялёнае святло, калі яно мігала», – паведаміў абласны каардынатар БХД.

13 чэрвеня каардынатар аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» па Берасцейскай вобласці Зміцер Шурхай узяў удзел у пратэсце берасцейцаў на памежным пераходзе «Варшаўскі мост», які быў выкліканы тым, што ўлады абмежавалі магчымасць вывозіць некаторыя тавары з Беларусі , а таксама колькасць разоў выезду за мяжу.

У акцыі ўзяло ўдзел каля 150 чалавек, за якімі назіралі вельмі шмат міліцыянтаў і людзей у цывільным.

«Да нас падыйшлі прадстаўнікі памежнай і мытнай службаў, міліцыі. Але ніякіх канкрэтных, адэкватных і абгрунтаваных адказаў ад іх мы не пачулі. Напрыклад, мы ім паказвалі Канстытуцыю, якая дазваляе свабодны ўезд і выезд грамадзянаў краіны, і яны нічога не маглі сказаць, толькі прапаноўвалі карыстацца летакамі ці цягнікамі, але не аўтамабілямі. Людзі запатрабавалі, каб прыехаў губернатар Сумар. Прыехаўшы, ён папрасіў даць яму два дні, каб разабрацца з сітуацыяй. У выніку, людзі разышліся», – паведаміў абласны кааардынатар БХД.

«Для першага разу акцыя прайшла вельмі нармалёва, а там будзе бачна. Калі гэты закон не адменяць, людзі будуць выходзіць на вуліцы, бо ім трэба за нешта жыць. БХД сочыць за сітуацыяй. Мы будзем і надалей падтрымліваць грамадзянаў у абароне сваіх правоў», – падкрэсліў Зміцер Шурхай.

# Кіраўніка Берасцейскага абласнога БХД Зміцера Шурхая засудзілі на 7 сутак



28 чэрвеня супрацоўнікі райаддзела Маскоўскага раёна горада Берасця затрымалі абласнога кіраўніка БХД па Берасцейскай вобласці Зміцера Шурхая і прад'явілі яму надуманае абвінавачанне ў дробным хуліганстве. Сябры Зміцера сведчаць, што ён як вернік евангельскай царквы не п'е, не паліць і заўсёды паводзіць сябе прыстойна.

**29 чэрвеня ў судзе Маскоўскага раёна Берасця адбыўся суд над Зміцерам Шурхаем. Суддзя засудзіла аднаго з лідэраў грамадскіх пратэстаў «Стоп-бензін» і штосерадовых маўклівых акцый на Берасцейшчыне на 7 сутак арышту.**

Нагадаем, што тыдзень таму, 21 чэрвеня Берасьцейскі аддзел КДБ пачаў застрашваць актывістаў дэмакратычных сілаў і простых грамадзян, якія ўваходзяць у суполку «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі». Знаходзячы іх імёны ў сьпісе ўдзельнікаў, іх выклікаюць на допыты, дзе патрабуюць выйсьці з суполкі ды ня ўдзельнічаць у акцыі.

БХД лічыць, што ўлада хоча нейтралізаваць Берасцейскага абласнога лідэра БХД не толькі на сённяшнюю акцыю, але і на акцыю 3 ліпеня.

Нагадаем, Зміцер Шурхай толькі ўчора быў вызвалены з-пад 7-суткавага арышту, да якога яго прысудзілі ў выніку правакацыі берасцейскіх сілавікоў перад папярэдняй серадой 29 чэрвеня. Падчас спецаперацыі па абсалютна незаконным затрыманні, калі Зміцера пасьля ўдару нагой у сьпіну, круцілі два спецназаўцы, гэбіст, які кіраваў аперацыяй захопу, кінуў Шурхаю: «Ну што, хрысціянін». Аднак паводле ілжэсведчанняў гэтых спецназаўцаў, Бабічава і Жука, асудзілі хрысціяніна за брыдкаслоўе, папярэдне прымуўшы яго заплаціць штраф за няправільную паркоўку машыны, якую эвакуявалі падчас арышту.

# Андруся Кашэўскага трое сутак трымалі ў Ленінскім райаддзеле Менску

**4 ліпеня Ленінскім судом Менска на 10 сутак адміністратыўнага арышту асуджаны сябра аргкамітэту БХД з Жодзіна і Смалявічаў Андрусь Кашэўскі. Яго затрымалі яшчэ 1 ліпеня за распаўсюд улётак і 3-е сутак пратрымалі ў Ленінскім РУУСе. Пра гэта на 4-я суткі паведамілі па тэлефоне маці актывіста, якая ў адчаі абтэлефаноўвала ўсе Менскія РУУСы і суды.**

Пра гэты жахлівы выпадак распавёў прэс-службе БХД сустаршыня аргкамітэту Павал Севярынец: «Умовы для затрыманых ў райадзелах вельмі жосткія: альбо клетка, альбо каменны мяшок, у якім нельга нават прылегчы. Ня кормяць. Чацьвёра сутак у такіх умовах – гэта проста катаваньні.»

Актывіст БХД, каталік Андрусь Кашэўскі распаўсюджвае незалежныя газэты ў электычках барысаўскага накірунку. Яго ўжо не аднойчы затрымлівалі і арыштоўвалі па палітычных матывах, а ў гэтым годзе нават зьмясьцілі актывіста ў псіхіятрычны шпіталь у Навінках, ужываючы да яго метады карнай псіхіятрыі.

У інтэрвію прэс-службе БХД Андрусь Кашэўскі распавёў пра абставіны свайго затрыманьня і ўмовы ўтрыманьня: «Затрымалі мяне ў пятніцу ўвечары за тое, што распаўсюджваў улёткі недалёка ад плошчы Каліноўскага (Кастрычніцкай), але ў пратаколе напісалі, быццам нецэнзурна лаяўся.

Да суда два дні трымалі на Акрэсціна, а пасля ў панядзелак павезлі ў Ленінскі РУУС і суткі пратрымалі там. Пяць сутак я трымаў галадоўку пратэсту.



Сядзеў з хлопцамі з акцыяў маўклівага пратэсту. Спачатку ў камеры было 6 ці 7 чалавек, пасьля перавялі ў іншую камеру паболей, дзе было 12. Бытавікоў у камерах увогуле ня было, усе толькі з акцыяў пратэсту, праўда ня ўсе свядомыя. Ніхто з іх, дзякуй Богу, не быў збіты. Калі пераводзілі, чуў, што яшчэ тыдзень да пятніцы нікога на Акрэсціна не прыймаюць: няма месца.»



# З самалёту – на Акрэсціна

**30 чэрвеня сябра БХД з Берасця – Бакур Юрась – атрымаў 15 сутак арышту ў судзе Ленінскага раёна горада Менску. Ён быў затрымана ўчора, 29 чэрвеня ў Менску падчас маўклівай акцыі пратэсту, арганізаванай праз сацыяльныя сеткі.**

Трэба адзначыць, што Юрась толькі ўчора вярнуўся з Казахстана ў Менск, дзе паўгады працаваў на будаўнічым аб'екце. У Беларусі на свабодзе ён прабыў фактычна лічаныя гадзіны.

# У Віцебску БХД узначаліла шэсьце да Еўфрасіньнеўскага крыжа

**3 ліпеня ў Віцебску адбылося шэсьце салідарнасьці ад плошчы Перамогі да Еўфрасіньнеўскага крыжа на Усьпенскай горцы, дзе адбылася штодзённая малітва за палітвязьняў. Пра гэта прэс-службе БХД паведаміла каардынатарка аргкамітэта па Віцебскай вобласьці Тацяна Севярынец.**



Тацяна Севярынец распавяла, што на віцебскай плошчы Перамогі – традыцыйным месцы збору ўдзельнікаў маўклівых акцыяў пратэсту па серадах каля 19-ці вечара сабралася прыкладна 300 чалавек. Паводле Тацяны Яўгенаўны, гэта менш, чым звычайна зьбіраецца на серадовыя акцыі. Але гэта можна патлумачыць актыўным запалохваньнем з боку сілавых структураў напярэдадні так званага Дня незалежнасьці.

Некаторыя актыўныя ўдзельнікі і арганізатары віцебскіх акцыяў пратэсту ў сацыяльных сетках былі затрыманыя прэвентыўна, а таксама былі затрыманьні і непасрэдна на плошчы. У прыватнасьці, былі затрыманыя сябры БХД Алесь Галавань, Алег Сурган і Валер Раманенка.

Яшчэ за паўгадзіны да пачатку збору плошчу Перамогі абгарадзілі жалезнымі загарадкамі і ўсталявалі на праходах турнікеты з металашукальнікамі. За сабранымі людзьмі сачылі міліцыянты ў форме і прадстаўнікі сьпэцслужбаў у цывільным, здымалі тое, што адбывалася на відэакамеру.

Такім чынам пляскаць у ладкі на самой плошчы наважылася ўсяго некалькі чалавек.

Прыкладна ў 19-30 Тацяна Севярынец з групай моладзі БХД накіраваліся да Еўфрасіньнеўскага крыжа, каб а 20-й распачаць там традыцыйную штодзённую малітву за палітвязьняў і свабоду нашай краіны. Разам зь імі пайшло больш за 100 чалавек.

«Калі дайшлі да крыжа, хтосьці сыйшоў, але больш за 50 чалавек далучылася да нашай малітоўнай акцыі. Я распавяла пра гэтую ініцыятыву, пра палітвязьняў. Мы паламаліліся, прасьпявалі «Магутны Божа» і скончылі традыцыйным воклічам «Жыве Беларусь – Жыве з Богам!».

# Таццяну Севярынец пакаралі за малітву



**11 ліпеня суд Кастрычніцкага раёну горада Віцебска прызнаў кіраўніцу абласной арганізацыі БХД Таццяну Севярынец вінаватай ў арганізацыі несанкцыянаванага шэсця 3 ліпеня, калі больш за 100 віцьбічаў, пляскаючы ў ладкі, прайшлі па цэнтральных вуліцах горада і многія з іх прынялі ўдзел у малітве за Беларусь каля Успенскага сабора.**

Суддзя Яўген Буруноў сказаў, што на ўласныя вочы пабачыў на апэратыўным відэа, як Таццяна Севярынец арганізоўвала малітву за палітвязняў, прызнаў яе вінаватай у частцы 2 артыкула 23.34 КоАП і прысудзіў Таццяне Яўгенаўне, як арганізатарцы «несанкцыянаванага шэсця" і малітвы штраф у памеры 20 базавых велічыняў (700 000 беларускіх рублёў).

У суд Таццяна Севярынец прыйшла, падрыхтаваўшыся да «сутак». Прадстаўніком Таццяны Яўгенаўны ў адміністрацыйным працэсе выступіў яе сын Павал Севярынец, які сам асуджаны за Плошчу-2010 і чакае зараз накіравання на «хімію».

У судзе пераглядзелі відэазапісы, зробленыя аператыўнікамі на плошчы Перамогі, падчас руху людзей па вуліцы Леніна і ўласна падчас малітвы каля Еўфрасіннеўскага крыжа на Ўспенскай горцы. Павал Севярынец наконт гэтых відэазапісаў сказаў, што на іх бачнае толькі парушэньне закону з боку міліцыянтаў, якія іх здымалі: на відэа чутна нецэнзурная лаянка супрацоўнікаў, а пляскаць у ладкі і тым больш, маліцца, законам пакуль не забаронена.

Падтрымаць Таццяну Яўгенаўну прыйшлі сябры па партыі, калегі па дэмакратычнаму руху і вернікі. Заключнае слова Таццяны Севярынец было сустрэта воплескамі.

# Воплескі салідарнасьці на малітоўнай акцыі ля Чырвонага касьцёлу ў Менску

**Штодзённая малітоўная акцыя салідарнасьці з палітвязьнямі ля Чырвонага касьцёлу ў Менску 3 ліпеня прайшла пад уражаньнем разгону мірнай акцыі маўклівага пратэсту на Прываказальнай плошчы непасрэдна перад малітвай. Таму малітоўную акцыю на знак салідарнасьці з толькі што затрыманымі людзьмі прысутныя скончылі гучнымі, працяглымі апладысменамі.**




Перад пачаткам малітвы стала вядома, што сталая ўдзельніца малітоўных акцыяў маці палітвязьня Эдуарда Лобава Марына не змагла дайсьці да Чырвонага касьцёла: яе таксама затрымалі на Прывакзальнай плошчы разам з малодшым непаўнагадовым сынам Уладзем. Пры іх затрыманьні ўжывалі сьлезацёчны газ.

На знак салідарнасьці з паплечніцай па няшчасьці і ўсімі затрыманымі маці іншага палітвязьня Мікіты Ліхавіда Алена паклала да скульптуры арханёла Міхаіла букецікі васількоў, набытыя ля вакзала.

Падчас малітвы яшчэ адна маці палітзьняволенага Фёдара Мірзаянава Людміла згадала паіменна ўсіх ужо асуджаных палітвязьняў і памалілася за свабоду нашай краіны.

Нагадаем, ініцыятыва штодзённай малітоўнай акцыі ля Чырвонага касьцёла, якая атрымала назву «Нельга забыць», узьнікла стыхійна 19 студзеня падчас акцыі салідарнасьці з арыштаванымі і пацярпелымі пасьля падзеяў Плошчы-2010. Кожны дзень а 20-й гадзіне тут зьбіраюцца людзі са сьвечкамі, кветкамі і партрэтамі палітвязьняў, сьпяваюць і моляцца, запальваюць зьнічкі і ставяць іх ля скульптуры арханёла Міхаіла, якая сымбалізуе перамогу дабра над злом, сьвятла над цемрай, праўды над страхам і хлусьнёй.



# Заява аргкамітэта Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя»




3 ліпеня 2011г на Прывакзальнай плошчы ў Менску адбыўся гвалтоўны разгон мірных грамадзян, якія моўчкі пратэставалі супраць палітыкі рэжыму. Падчас захопу невядомыя асобы ў цывільным у аўтазак укінулі цяжарную Кацярыну Радзівілку, якая пыталася, навошта хапаюць людзей, і яе мужа, які спрабаваў заступіцца. У адказ на просьбы затрыманых вызваліць хаця б цяжарную, паводле сведчання відавочцаў, супрацоўнікі невядомых сілавых структураў толькі здзекаваліся. Кацярыну прывезлі у райаддзел і трымалі там яшчэ 2 гадзіны. Яе мужа забралі і асудзілі на 10 сутак «за дробнае хуліганства».

У выніку гвалту і стрэсу Кацярына страціла дзіця.

Тое, што бандыцкі напад невядомых «праваахоўнікаў» стаў прычынай сьмерці ненароджанага дзіцяці, нельга расцэньваць інакш як ЗАБОЙСТВА.

БХД патрабуе расследвання гэтага жудаснага факту. Асобы тых, хто аддаваў загад хапаць невінаватых людзей і тых, хто яго выконваў, мусяць быць высветленыя і пакараныя ў адпаведнасці з законам. Мы перакананыя, што раней ці пазней такое расследаванне абавязкова адбудзецца.

Збіццё, прымяненне грубай фізічнай сілы і спецсродкаў супраць мірных грамадзян Беларусі, якія пляскаюць у ладкі або проста знаходзяцца побач, а таксама беззаконныя суды над імі – крымінальнае злачынства!

Сустаршыні БХД: **Павал Севярынец, Віталь Рымашэўскі, Аляксей Шэін, Георгій Дзмітрук**

# БХД адзначыла дзень моладзі ў Кобрыне

**У нядзелю 26 чэрвеня па ініцыятыве БХД хрысціянская моладзь горада Кобрына пасвойму адсвяткавала Дзень Моладзі. Замест звычайных у такі дзень піва і цыгарэт маладыя людзі дарылі кобрынцам цацкі.**




Маладыя мамы і таты, што прагульваліся ў парку з дзецьмі былі шакаваныя нечаканай увагай з боку маладых і цвярозых людзей. «Да такой ў нашай краіне, мы не прызвычаіліся», – падзялілася ўражаннямі маладая жыхарка Кобрына. – «Я спачатку думала, што гэта нейкі розыгрыш. Але калі я пагутарыла з хлопцамі, пабачыла іх светлыя вочы, я зразумела што будучыня ў нашым горадзе за людзьмі, якія прымаюць хрысціянскія і сямейныя каштоўнасці. Дзякуй усім за пазітыў».



«Мы будзем працягваць праводзіць акцыі, якія прапагандуюць хрысціянскія і сямейныя каштоўнасці. Я рады, што наша моладзь з задавальненнем прымае ўдзел у падобных мерапрыемствах. Час спыніць спойвае моладзі. Маладыя сэрцы цягнуцца да цяпла і святла. І мы павінны дапамагчы ім рабіць правільны жыццёвы выбар – жыццё без алкаголю і негатыву,»- пракаментаваў сустаршыня БХД Георгі Дзмітрук.

# Напішы ліст палітвязню!

**Дарагія сябры! Кожны з Вас можа напісаць ліст людзям, якія церпяць за Беларусь. Увогуле, адведаць вязня – абавязак любога хрысціяніна. У турме ўсё жыццё ўспрымаецца па-іншаму, значна больш абвострана. Тыя словы, якія Вы напішыце хлопцам, могуць змяніць іх жыццё. Заклікаем маліцца за іх, дасылаць ім лісты і паштоўкі, пісаць пра Беларусь і Бога.**



***Васіль Парфянкоў***

211030 Віцебская вобл.,
г. Орша, вул. Леніна, 195А
папраўчая калонія № 8



***Андрэй Пратасеня***

213800 Магілёўская вобл.,
г. Бабруйск,
вул. Сікорскага, 1
папраўчая калонія № 2,
атрад 7



***Аляксандр Атрошчанкаў***

211300 Віцебская вобл.,
Віцебскі р-н, п.Віцьба
папраўчая калонія № 3



***Алег Федаркевіч***

212030 г. Магілёў,
Слаўгарадская шаша, 3-ці км
папраўчая калонія № 19



***Дзмітрый Новік***

213004 Магілёўская вобл.,
г. Шклоў
папраўчая калонія № 17,
брыгада 141



***Уладзімір Лобан***

213004, Магілёўская вобл.,
Шклоўскі раён,
п. Маладзёжны
папраўчая калонія № 17



***Аляксандр Малчанаў***

213105 г. Магілёў,
Слаўгарадская шаша,
п / а Вейна
папраўчая калонія № 15



***Яўген Сакрэт***

213105 г. Магілёў,
Слаўгарадская шаша,
п /а Вейна
папраўчая калонія № 15



***Мікіта Ліхавід***

211440 Віцебская вобл.,
г. Наваполацк,
вул. Тэхнічная, 8
папраўчая калонія № 10



***Алег Гнедчык***

213004 Магілёўская вобл.,
г. Шклоў
папраўчая калонія № 17



***Павал Вінаградаў***

225295 Брэсцкая вобл.,
г. Івацэвічы,
«Воўчыя норы», а / с 20
папраўчая калонія № 22



***Аляксандр Квяткевіч***

225295, Брэсцкая вобл.,
г. Івацэвічы,
«Воўчыя норы», а / с 20
папраўчая калонія № 22



***Уладзімір Хамічэнка***

212030 г. Магілёў,
Слаўгарадская шаша,
3-ці км
папраўчая калонія № 19

***Дзмітрый Саўрасаў***

213105 г. Магілёў, Слаўга-радская шаша, п /а Вейна
папраўчая калонія № 15

***Арцём Грыбко***

213800 Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1
папраўчая калонія № 2



### *Зміцер Бандарэнка*

213105 г.Магілёў,
Слаўгарадская шаша,
п /а Вейна
папраўчая калонія № 15



### *Эдуард Лобаў*

225295 Брэсцкая вобл.,
г. Івацэвічы,
«Воўчыя норы», а / с 20
папраўчая калонія № 22



### *Мікола Статкевіч*

213004 Магілёўская вобл.,
г. Шклоў
папраўчая калонія № 17



### *Аляксандр Класкоўскі*

213004 Магілёўская вобл.,
г. Шклоў
папраўчая калонія № 17



### *Дзмітрый Ус*

213105 г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна
папраўчая калонія № 15



### *Алесь Кіркевіч*

211440 Віцебская вобл.,
г. Наваполацк,
вул. Тэхнічная, 8
папраўчая калонія № 10



### *Зміцер Дашкевіч*

Магілёўская вобл., г. Горкі,
вул. Дабралюбава, 16, ПК-9
213410



### *Андрэй Саннікаў*

211440 Віцебская вобл.,
г. Наваполацк,
вул. Тэхнічная, 8
папраўчая калонія № 10



### *Фёдар Мірзаянаў*

225295 Брэсцкая вобл.,
г. Івацэвічы, «Воўчыя норы»



### *Яўген Васьковіч*

213105 г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна
папраўчая калонія № 15



### *Зміцер Дрозд*

213800 Магілёўская вобл.,
г. Бабруйск,
вул. Сікорскага, 1
папраўчая калонія № 2

**Асуджаныя, якія пакуль утрымліваюцца на «Валадарцы», але кожны дзень могуць быць пераведзены для адбывання пакарання:**



### *Дзмітрый Даронін*

220030 г. Мінск, вул. Валадарскага, 2, СІЗА-1



### *Сяргей Казакоў*

220030 г. Мінск, вул. Валадарскага, 2, СІЗА-1



### *Віталь Мацукевіч*

220030 г. Мінск, вул. Валадарскага, 2, СІЗА-1



### *Ілля Васілевіч*

220030 г. Мінск, вул. Валадарскага, 2, СІЗА-1



### *Уладзімір Яроменак*

220030 г. Мінск, вул. Валадарскага, 2, СІЗА-1

# Кіраўніка Рагачоўскага гарадскога БХД нейтралізавалі перад акцыямі пратэсту



**У Рагачове 28 чэрвеня ўвечары супрацоўнікі раённага аддзела міліцыі прыйшлі дахаты да кіраўніка Рагачоўскага БХД Дзяніса Дашкевіча і запатрабавалі ад яго зранку з'явіцца ў міліцыю. Прычына – удзел Дзяніса ў маўклівых акцыях і заснаванне мясцовага дэмакратычнага інтэрнэт-парталу rogachev.ucoz.org.**

2 ліпеня Рагачоўскі раённы суд вынес вырак па адміністрацыйнай справе кіраўніка мясцовай філіі БХД Дзяніса Дашкевіча.

Дзяніс не адмаўляў, што гэта сайт ягоны. Суд адбыўся за зачыненымі дзвярыма. Вырак — 5 сутак арышту.

# Дзяніс Дашкевіч: склалася адчуванне, што я трапіў у канцлагер



**Прэсавая служба БХД звязалася з Дзянісам, і ён расказаў, як праходзіў суд, і якія ўмовы ўтрымання зняволеных у Рагачоўскім ІЧУ. Нагадаем, што сябра БХД, Дзяніс Дашкевіч быў асуджаны Рагачоўскім судом на 5 сутак арышту, за арганізацыю так званага несанкцыянаванага масавага мерапрыемства ...**

Суд над Дашкевічам быў закрытым, на пасяджэнне не пусцілі нават яго сям'ю, пачаўся т.зв. суд 1 ліпеня ў 14:00, судзіў актывіста сумна вядомы для горада Рагачова суддзя па прозвішчы Рубісаў.

Справу супраць актывіста сфабрыкаваў Рагачоўскі супрацоўнік МУС – Юры Астаповіч.

Па словах актывіста, супрацоўнік міліцыі моцна нерваваўся, і некалькі разоў кляўся, што тут ад яго нічога не залежыць ...

Адзін з актывістаў БХД да суду так і не дайшоў. Па дарозе яго перахапілі супрацоўнікі Рагачоўскага КДБ, хлопцу пагражалі судовай расправай, калі ён не спыніць займацца сваёй дзейнасцю ў Інтэрнэце. Варта заўважыць, што яшчэ да суду, супрацоўнікі КДБ ведалі, што Дашкевічу дадуць 5 сутак арышту, менавіта такім тэрмінам нашаму рэдактару і пагражалі, адпусцілі яго толькі тады, калі суд над Дашкевічам скончыўся.

Сам суддзя ніякіх рэальных доказаў па «справе Дашкевіча» не знайшоў, пры гэтым неаднаразова сцвярджаў, цытата: – «Інтэрнэт – гэта памыйніца, так як гэта сказаў, наш вялікі прэзідэнт, з якім вы спадар Дашкевіч, спадзяюся спрачацца не будзеце ....»

«У самім ІЧУ ўмовы ўтрымання былі проста нечалавечыя, зняволеных не выводзілі на шпацыр, сілкаванне было такое, што складвалася адчуванне, што я трапіў у канцлагер» – кажа Дашкевіч. Па словах актывіста, на дзень зняволеным ІЧУ давалі 2 кубкі гарбаты, маленькую талерку супу, 3 лыжкі пярлоўкі, і адну катлету. Таксама актывіст паведаміў, што ў многіх зняволеных былі сур'ёзныя праблемы са здароўем, аднак меддапамогу ім не аказвалася, так напрыклад 3 ліпеня, з адной з камер, пастукаў зняволены, які патлумачыў, што перажыў 4 аперацыі, сказаў , што ў яго абвастрэнне, і яму патрэбны доктар, адказ міліцыянта – «Маўчы, будзе пятая ...». Праз некалькі гадзін міліцыя была вымушаная выклікаць хуткую, бо чалавек проста страціў прытомнасць, дзе ён цяпер, і ці жывы ён наогул невядома ...

Толькі праз тры дні, Дашкевіч ўсё ж такі дамогся, каб зняволеных выводзілі на шпацыр (45 хвілін у дзень). Таксама, актывіст дамогся, каб зняволеным перадавалі перадачку, сёння раніцай, ён асабіста сустракаўся са сваякамі арыштаваных, па словах Дашкевіча людзі вельмі абураныя парушэннямі правоў зняволеных.

Таксама Дзяніс адзначыў, што над некоторыми зняволенымі проста здзекаваліся, напрыклад, калі ў камеры нехта спаў, маглі рэзка ўдарыць у дзверы, каб чалавек ад спалоху прачнуўся, потым усе супрацоўнікі міліцыі «смяяліся ад душы» ... Пра тое, што зняволеных там пастаянна абражаюць, і абзываюць нецэнзурнымі словамі, можна нават не казаць, там гэта ў парадку рэчаў – адзначыў Дашкевіч.

# Пікет-марафон за вызваленне палітвязняў у Бабруйску



**Сябры Бабруйскага аргкамітэту па стварэнні Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» падалі ў Бабруйскі гарвыканкам заяўку на правядзенне штодня на працягу месяца з 14 ліпеня па 14 жніўня пікета ў горадзе Бабруйску, каля спартыўнага комплекса «Славянка» па адрасе вул. Урыцкага, 76А. Мэтай пікету з'яўляецца інфармаванне грамадзянаў аб сітуацыі з палітвязнямі.**

Заяўку падала каардынытар аргкамітэту БХД па Магілёўскай вобласці Кабанчук Таісія Карпаўна.

«Мы будзем патрабаваць вызвалення ўсіх палітычных вязняў. Наш пікет будзе стаяць на працягу месяца кожны дзень. Гэта будзе такі марафон. Мы спадзяемся, што пікет будзе дазволены, і мы зможам данесці сітуацыю, якая склалася зараз у краіне да вялікай колькасці жыхароў горада Бабруйска», – адзначыла Таісія Кабанчук.

# Гомельская БХД зьбірала подпісы за будаўніцтва храма на месцы масавай згубы ваеннапалонных




**Каля 20 прыхільнікаў «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» у Гомелі 26-29 траўня правялі збор подпісаў за будаўніцтва храма (царквы ці капліцы) на месцы масавай згубы савецкіх ваеннапалонных узімку 1941-1942 гадоў. Ініцыятарам акцыі выступіў абласны каардынатар аргкамітэту БХД Юры Клімовіч.**

Зь яго словаў, у акцыі мэтанакіравана былі задзейнічаны толькі прыхільнікі БХД, а не сябры аргкамітэту, каб супрацоўнікі КДБ не маглі вызначыць удзельнікаў збору подпісу.

Акцыя не насіла палітычнага характару. Яе правядзеньне было ўзгоднена з кіраўніцтвам Гомельскай і Жлобінскай праваслаўнай япархіі ды з намесьнікам кіраўніка ўпраўленьня архітэктуры і горадабудаўніцтва Гомельскага гарвыканкаму Раманам Аўтуховым.

За чатыры дні ўдалося сабраць 401 подпіс за будаўніцтва храма у гонар загіблых ваеннапалонных.

«Подпісы пад ініцыятывай паставілі прыкладна 80% людзей, да якіх мы зьвярталіся. Мы перадалі іх усе ў канцылярыю япархіі, каб царкоўныя ўлады ўжо самі разьбіраліся з гарвыканкамам. Сёньня ўлады вельмі неахвотна ідуць насустрач цэрквам, у тым ліку праваслаўнай. Такім чынам, мы проста прапанавалі Праваслаўнай царкве свае паслугі ў справе вырашэньня ўжо даўна насьпелага пытаньня», – паведаміў Юры Клімовіч.

У зімку 1941-1942 гадоў на тэрыторыі Гомельскага цэнтральнага перасыльнага лягеру ваеннапалонных ДУЛАГ-121 загінула прыкладна 100 тысяч чалавек. Кожны дзень памірала каля 1000 чалавек, якіх хавалі тут жа. Брацкія магілы да сёньня ня маюць афіцыйнага статусу пахаваньняў. Іх канкрэтнае месцазнаходжаньне было страчана. Вельмі часта пры будаўніцтве дамоў эскватары адкопваюць косткі і целы загігулых. У 2010 год адбыўся скандал, калі рэшткі людзей папросту выкінулі на сьметнік.

«Душы памерлых дагэтуль ня могуць знайсьці сабе супакаеньня. Грэх забыцьця памяці загінулых мусіць быць адкуплены. Ня можа быць міру, дабрабыту і духовага здароўя ў дамах, якія стаяць на братэрскіх могілках. Гэта патрэбна нашым дзецям і ўнукам», – падкрэсьліў Юры Клімовіч.

**Ён таксама дадаў, што ўшанаваньне памяці былых ваеннапалонных у Беларусі мэтазгодна было б правесці сіламі БХД па ўсёй Беларусі.**

# З пратэстоўцаў патрабуюць аплаціць паслугі спецназа

**Ад людзей, якія перакрылі беларуска-польскі памежны пераход «Брузгі» у знак нязгоды з увядзеннем абмежаванняў на вываз паліва з Беларусі, патрабуюць аплаціць паслугі спецназу, што разганяў і затрымліваў пратэстоўцаў, а таксама кампенсаваць страты прастою самой мытні.**



Асуджаным удзельнікам стыхійнай акцыі, што прайшла на памежным пераходзе 11 чэрвеня, супрацоўнікі міліцыі накіравалі адмысловыя плацёжныя патрабаванні, а ў выпадку іх невыканання абяцаюць спагнаць грошы судовым парадкам. Распавядае кіраўнік Гарадзенскай абласной арганізацыі БХД Мікола Баўсюк.

– З людзей, якіх аштрафавалі, яшчэ патрабуюць вяртання матэрыяльнага урону, як яны пішуць у сваіх позвах. Сталі шукаць хлопцы і высветлілі што за тое, што, нібыта, выклікалі спецназ. Значыць, спецназу няма чым плаціць, калі яны хочуць з людзей зыскаць. А 660 тысяч – для мытні.

Аплачваць паслугі спецназаўцаў аўтааматары пакуль не спяшаюцца і заяўляюць, што збіраюцца звярнуцца ў гэтай справе у абласны суд.

# У Гомелі прайшоў сход абласной і гарадской арганізацый БХД

**У суботу, 18 чэрвеня, у Гомелі прайшоў сход абласной і гарадской арганізацый аргкамітэту «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі», у якіх прынялі ўдзел 34 чалавекі. Сход праходзіў у значна абноўленым складзе.**

Падчас сходу быў праведены аналіз бягучай палітычнай і сацыльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне, абмеркаваны і прыняты план дзеянняў у бліжэйшай і сярэднетэрміновай перспектыве. Сход праходзіў у дзелавой і канструктыўнай, але часам напружанай атмасферы.

На сходзе было абранае новае кіраўніцтва абласной арганізацыі, якую ўзначаліў Юры Клімовіч. Яго намеснікамі былі абраныя Алесь Кавальчук (Мазыр) і Аляксей Змушко (Рэчыца). Новае кіраўніцтва ўзяло на сябе абавязкі па пераадоленні хібаў і недахопаў у дзейнасці абласнога і гарадскога аргкамітэтаў, а таксама колькасным і якасным росце яго сяброў напярэдадні ўстаноўчага з’езду БХД.






# У Бабруйску прайшоў сход Магілёўскай абласной арганізацыі БХД

**У нядзею, 19 чэрвеня, у Бабруйску прайшоў сход Магілёўскай абласной арганізацыі аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя». У сходзе бралі ўдзел каля 25 сябраў БХД.**

Удзельнікі абмеркавалі бягучую сітуацыю ў краіне, прынялі план далейшай дзейнасці. На сходзе таксама пераабралі каардынатара абласнога камітэту – Таісію Кабанчук, ды абралі Раду з сямі чалавек.

# У Празе маліліся за Беларусь



**У Празе адбылася малітва салідарнасці з Беларуссю. Чэшскія хрысціяне маліліся за Беларусь і палітзняволенных.**

28.-29.06 была арганізавана выстава – «Беларусь за кратамі». Паказвалі «беларускую камеру», падобную, якая была паказана на выставе ў Менску.

Наведвальнікі выставы падпісалі 80 паштоўвак беларускім політвязням і 60 чалавек падпісалі хадайніцтва да Лукашенкі аб вызваленні палітычных зняволеных.

Малітва адбывалася ў знакамітай пражскай келліцы, дзе калісціпрапаведваў лідэр Рэфармацыі Ян Гус







# У Ірляндыі маліліся за беларусаў



3 ліпеня ў касьцёле Сьвятога Ружанца ў ірляндзкім горадзе Кастлбар прайшла служба ў падтрымку жыхароў Беларусі, якія пакутуюць ад дыктатуры.

На імшы прысутнічалі 25 чалавек – зь іх 9 беларусаў, а таксама грэкі, ірляндцы і літоўцы.



# Ствараецца віртуальны архіў камуністычных рэпрэсіяў на Беларусі



**Сябры кампаніі «Пакаянне» аргкамітэту БХД звяртаюцца па дапамогу ў стварэнні віртуальнага архіву камуністычных рэпрэсіяў на Беларусі. Зараз вядзецца праца па пошуку і сканаванні дакументаў і фатаздымкаў рэпрэсаваных беларусаў у ГУЛАГу, а таксама фатаграфаванні і апісанні прывезеных адтуль рэчаў, што захаваліся ў нашых суайчыннікаў. І безумоўна, вядзецца архіўны аўдыё- і відэазапіс успамінаў сведкаў камуністычных рэпрэсіяў і былых вязняў савецкіх лагероў.**

Канчатковай мэтай збірання архіву ёсць стварэнне віртуальнага музэю камуністычных рэпрэсіяў на Беларусі.

Калі вы маеце кантакты яшчэ жывых людзей, якія сядзелі ў ГУЛАГу, былі сасланыя ці маглі б іншым чынам асабіста засведчыць пра жахі камуністычных рэпрэсіяў, калі ў вас захаваліся дакументы і фатаздымкі вашых рэпрэсаваных бацькоў і дзядоў з ГУЛАГу і высылкі, а таксама рэчы, прывезеныя адтуль, ласкава просім паведаміць пра гэта на мэйл represii@gmail.com ці па тэлефонах 8-029-5712611(МТС), 8-029-3072713 (Вэлкам).

# Актывістка аргкамітэта БХД з Мастоў збірае грошы на аперацыю для дачкі

**Актывістка аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» з Мастоў Алена Давідовіч збірае сродкі на тэрміновую аперацыю для яе пяцігадовай дачкі Ксеніі.**



У дзяўчынкі рубцовае васкулязаванае памутненне рагавіцы, рэтракарнэальная мэмбрана, рэгрэсіўная катаракта, другасная глаўкома, субатрафія левага вочнага яблыка і іншае. Ксеніі неабходна выдаляць вока і ставіць пратэз, што каштуе вялікай сумы грошай.

Для збору сродкаў на аперацыю быў адкрыты дабрачынны рахунак у г. Масты ў ЦБП 415 філіяла 400 ААБ "Беларусбанк" N 000003 ў беларускіх рублях. Рахунак адкрыты на Ірыну Леанідаўну Давідовіч.



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 1673435 (Ірына)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 20 ліпеня 2011 г.
Тыражаваньне і распаўсюд усімі
зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.